Магістрат

«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №6(90), травень, 2017г.

# ВЫНІКІ ТРАВЕНЬСКАГА СОЙМУ ПАРТЫІ БНФ

**13 траўня ў цэнтральнай сядзібе БНФ адбылося чарговае пасяджэньне Сойму Партыі БНФ і Грамадзкага аб'яднаньня БНФ "Адраджэньне".**

Кіруючым органам БНФ былі разгледжаныя пытаньні бягучай палітычнай сытуацыі, абмеркаваны стан падрыхтоўкі партыі да маючых адбыцца на пачатку 2018 года выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў. Сойм зацьвердзіў далучэньне партыі да Альянсу эўрапэйскіх кансэрватараў і рэфармістаў, а таксама зацьвердзіў палажэньне аб скліканьні 30 верасьня чарговага справаздачна-выбарчага Зьезду Партыі БНФ.

З дакладам аб палітычнай сытуацыі перад Соймам выступіў старшыня Партыі БНФ **Аляксей Янукевіч**.

Ён адзначыў, што тыя негатыўныя тэндэнцыі ўзмацненьня палітычных рэпрэсіяў і перасьледу апанентаў улады, пра якія была заяўленая занепакоенасьць у адмысловай заяве мінулага сакавіцкага Сойму Партыі БНФ, знайшлі сваё развіцьцё ў сакавіку і красавіку. Асабліва брутальна і маштабна рэпрэсіі ўзмацніліся напярэдадні і ў час адзначэньня чарговых угодкаў адбяшчэньня незалежнасьці Беларускай народнай рэспублікі. Пад адміністратыўныя арышты і штрафы патрапілі дзесяткі сябраў Беларускага народнага фронту ды іншыя актывісты палітычнай апазыцыі, журналісты, праваабаронцы і простыя беларусы. Агульная колькасьць рэпрэсаваных перавышае тысячу чалавек.

Пры гэтым асабліва жорсткім і бессаромным прыкладам палітычных рэпрэсіяў сталася крымінальная "справа патрыётаў", у межах якой у вязьніцу па відавочна неабгрунтаваных аббвінавачаньнях былі кінутыя некалькі дзесякаў чалавек, былых сябраў "Белага легіёну", актывістаў Маладога фронту і маладзёвага патрыятычнага клюбу. Сярод затрыманых па гэтай справе два сябры Партыі БНФ. Партыя адразу ж адрэагавала на гэтую справу адмысловай заявай кіраўніцтва.

На прапанову старшыні Партыі БНФ Аляксея Янукевіча сябры Сойму выказалі падтрымку і салідарнасьць увязьненым патрыётам, сфатаграфаваўшыся з іх партрэтамі з хэштэгам **#ПатрыётНеЗлачынца**

Старшыня Партыі БНФ адзначыў, што хоць з-за некаторых тэхнічных прычынаў праваабрончыя арганізацыі Беларусі пакуль не прынялі заяваў аб прызнаньні фігурантаў "справы патрыётаў" палітычнымі вязьнямі (у першую чаргу з-за адсутнасьці інфармацыі аб працэсе і асаблівага характару прызнаньня палітычнага перасьледу у выпадках абвінавачаньняў у падрыхтоўцы да гвалтоўных дзеяньняў), для Партыі БНФ і для ўсяго беларускага грамадзтва відавочны безпадстаўны характар гэтай справы. Для Партыі БНФ зьняволеныя па гэтай справе асобы з'яўляюцца ахвярамі палітычнага перасьледу і Беларускі народны фронт настойвае на іх вызваленьні.

У сваім выступе старшыня Партыі БНФ не абмінуў надзвычай жорсткага і нялюдскага абыходжаньня з арыштаванымі, адзначыўшы надзвычай жорскія і зьневажальныя ўмовы ўтрыманьня на Акрэсціна і ў іншых месцах адбыцьця адміністратыўнага арышту.

„Сітуацыя ў Беларусі вярнулася ў стан некалькіх гадоў таму, калі ў краіне былі палітвязні і фактычна была немагчыма вулічная актыўнасць. Прэсінг на беларускае грамадства ідзе вельмі жорсткі. Патлумачыць гэта можна толькі страхам уладаў страціць кантроль над сітуацыяй у краіне на фоне незадаволенасці беларусаў сваім эканамічным становішчам" – сказаў Янукевіч. Палітык лічыць, што ўзровень дамоўленасцей Аляксандра Лукашэнкі з кіраўніцтвам Расеі цяпер недастатковы, каб нават на кароткі перыяд вырашыць эканамічныя праблемы Беларусі. Таму, адзначыў Янукевіч, восенню ўлады могуць быць вымушаны пайсці на чарговыя непапулярныя рашэнні ў эканоміцы. Лідэр БНФ таксама лічыць, што палітыка беларускіх уладаў нясе небяспеку не толькі ў кантэксце збяднення беларусаў, але і пагражае незалежнасці краіны.

Аляксей Янукевіч нагадаў, што рэпрэсіўныя дзеяньні ўладаў сталіся рэакцыяй на абурэньне грамадства бяздарнай і непісьменнай палітыкай уладаў, якая завяла краіну ў тупік. Страціўшы расейскія датацыі, рэжым перакладае цяжар эканамічнага крызысу на саміх беларусаў, усё глыбей залязаючы ў кішэню шараговых грамадзянаў, скарачаючы сацыяльныя гарантыі, зьмяньшаючы заробкі, павялічваючы беспрацоўе. Асабліва абурыла грамадзтва нахабная спроба ўвесьці падатак з непрацуючых, якая стала спускавым кручком, які выклікаў пратэсты насельніцтва. Тым не меньш, праз рэпрэсіі, спалучаныя з часовым прыпыненьнем дзеяньня найбольш адыёзных нормаў сумнавядомага Дэкрэту №3 уладам атрымалася суцішыць пратэсты, зьбіць пратэстную хвалю – прынамсі да восені ці да вясны наступнага году.

Па словах Аляксея Янукевіча, Расея цешыцца цяперашнім эканамічным крызысам у Беларусі, разлічваючы, што эканамічна нямоглую краіну будзе прасьцей захапіць: „Чым больш слабым будзе беларускае грамадства, тым лягчэй Расеі будзе рэалізаваць у Беларусі свае імперскія амбіцыі",- падкрэсліў ён.

У гэтым сьвятле належыць разглядаць маштабныя расейска-беларускі **вучэньні "Захад-2017"**, што заплянаваныя на восень. Партыю БНФ назвычай турбуе верагоднасьць таго, што частка расейскіх вайскоўцаў, што прыбудуць на вучэньні, можа не пакінуць тэрыторыю нашай краіны і застанецца тут пад выглядам нейкіх сумесных вайсковых праграмаў. Малаверагодна, што гаворка будзе весьціся пра адкрытую акупацыю Беларусі расейскімі войскамі, але стварыць фактычна расейскі вайсковы кантынгент пад выглядам нейкай "абароны ад НАТА" расейцы цалкам могуць праз таемную змову з сёняшнім менскім кіраўніцтвам.

**Супрацьдзеяньне вучэньням "Захад-2017" у ідэялагічнай і інфармацыйнай сфэры будзе прыярытэтам дзейнасьці Партыі БНФ на бліжэйшы перыяд.**

З улікам выкладзенага як выклік нацыянальна-дэмакратычным сілам варта разглядаць характар адзначэньня 9 траўня ў гэтым годзе. Дзяржаўныя

Магістрат

**Выдавец**:
Віцебская Рада
Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

***http://kamunikat.org/mahistrat.html***

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэкламных і агітацыйных мэтах.

**ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ**
**вул. Церашковай, д.11, п.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
Тэлефоны для кантактаў:
8-029- 710-42-23,
713-22-00, 218-98-38,
711-24-47, 593-15-34,
517-32-53.
**E-mail: kas_vit@tut.by**
**WWW.NARODNY.ORG**
**VK.COM/PARTYJA_BNF**
**WWW.MOLADZ.INFO**
**VK.COM/BNF_MOLADZ**

**ДАСЫЛАЙЦЕ АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ ГА БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ"**

**Рэквізыты: р/р 3015100147004 ААТ "Белзнешэканомбанк" філіял Мінскае аддзяленьне № 1 код 226, УНП: 100052236**

**"прызначэньне плацяжу" — "бязвыплатны ўзнос"**

**— для ахвяраванняў на аплату сядзібы — "бязвыплатны ўзнос на аплату арэнды памяшкання".**

**Шчыры дзякуй за Вашыя ахвяраваньні!**

# ВЫНІКІ СОЙМУ ПАРТЫІ БНФ

урачыстасьці адбываліся цалкам па расейска-шавіністычным узоры: хоць афіцыйныя чыноўнікі чаплялі на сабе стужкі дзяржаўнага сьцягу з "ябланевым цветам", па Менску і іншых гарадах безпакарана шпацыравалі людзі з расейскай шавіністычнай сымболікай, у тым ліку з "**каларадскай**" стужкай, якая сталася сымбалем тэрытарыяльных захопаў сучаснай імперыялістычнай Расеі, а таксама з расейскімі трыкалёрамі. Гэтая сталінісцкая вакханалія сьведчыць пра поўны правал лукашэнкаўскіх ідэёлягаў у спробе пабудовы прасавецкай ідэнтычнасьці сучаснай Беларусі па ўзоры "савецкае, але сваё": без адмовы ад савецкай спадчыны Беларусь безумоўна будзе лёгкай ахвярай расейскага імперыялізму, без пабудовы нацыянальнай ідэнтычнасьці на аснове інтарэсаў беларускай нацыі дзяржава заўжды будзе безабаронная перад тварам захопнікаў з Усходу, што імкнуцца захапіць нашую краіну, выкарыстоўваючы савецкія паводле формы, але расейска-імперскія паводле сутнасьці архетыпы.

Партыя БНФ мусіць стратэгічна ініцыяваць, падтрымліваць і ўмацоўваць якія-кольвек праявы супрацьдзеяньня расейскай прапагандзе ў любых яе формах.

Тут старшыня Партыі БНФ ізноў зьвярнуўся да тэмы крымінальнай справы патрыётаў, адзначыўшыя яе як праяву моцы **прарасейскай пятай калёны ў сілавых структурах Рэспублікі Беларусь.** Цяпер ва ўладзе рэй вядуць тыя, хто арыентуецца на Маскву, сілавікі, якія разлічваюць падпарадкаваць краіну палітычна пасьля сыходу Лукашэнкі. Ім карціць пабудаваць у краіне такую сыстэму ўлады, якая ёсьць цяпер у РФ, дзе ўлада дзяржаўная знаходзіцца цалкам у руках спецслужбаў. Менавіта таму яны, як прыхільнікі аншлюсу, зьнішчаюць любыя асяродкі, якія маглі бы хаця б патэнцыйна і сымбалічна стацца апірышчам руху супраціву расейскім захопнікам.

Адзіная альтэрнатыва ўсталяваньню ў краіне паўнаўладзя прарасейскіх спецслужбаў з наступнай ліквідацыяй нават фармальных прыкметаў беларускага дзяржаўнага сувэрэнітэту – умацаваньне інстытутаў нацыянальнай дзяржавы і ўмацаваньне нацыянальнай ідэнтычнасьці беларусаў. **Грамадзтва гатовае прымаць нацыянальную ідэю** – і БНФ павінен быць тым суб'ектам, які гэтую ідэю будзе ўвасабляць і трансляваць у грамадзтве.

У абмеркаваньні палітычнай сытуацыі ўзялі ўдзел сябры Сойму **Вітольд Ашурак**, **Вадзім Болбас**, старшыня Мінскай раённай арганізацыі Партыі БНФ **Ільля Дабратвор.** Выступоўцы адзначылі неабходнасьць распрацоўкі інфармацыйнай стратэгіі і пляну грамадзкіх дзеяньняў напярэдадні і ў час беларуска-расейскіх вучэньняў "Захад-2017". Таксама была выкладзеная інфармацыя, якая сьведчыць пра актывізацыю прарасейскіх шавіністычных інфармацыйных рэсурсаў у беларускім сегменце інтэрнэту, якія маюць салідную грашовую і арганізацыйную падтрымку з Масквы і Смаленску.

Сябры Сойму адзначылі падрыўную ролю беларускага прадстаўніцтва інфармацыйнай агенцыі "Спутнік", якое ўзяло на сабе каардынацыю распаўсюду "каларадзкіх стужак" у Беларусі (ініцыятыва была падтрыманая марыянеткавай партыяй ЛДП). Як адзначыў старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, той "Спутнік" яскрава праявіў сваю сутнасьць не як інфармацыйнай агенцыі, а як прапагандыскага агента ўплыву. Лідэр БНФ заклікаў усе палітычныя сілы адмовіцца ад супрацы з гэтым сайтам, абвесьціўшы яму байкот у інфармацыйнай сферы.

Сябры Сойму заслухалі інфармацыю пра пісьмовае папярэджаньне, вынесенае на адрас Партыі БНФ Міністэрствам юстыцыі за ўдзел у падрыхтоўцы акцыі 25 сакавіка (гэткія ж папярэджаньні атрымалі і іншыя арганізацыі, што бралі ўдзел у працы аргкамітэту акцыі). Міністэрства юстыцыі сьцвярджае, што Партыя БНФ парушыла закон "Аб масавых мерапрыемствах", калі сябры партыі распаўсюджвалі інфармацыю пра падачу заяўкі на правядзеньне дэманстрацыі 25 сакавіка ў Менску з нагоды Дня волі. Партыяй БНФ ужо пададзеная скарга ў Вярхоўны суд, у якой партыя патрабуе скасаваньня неабгрунтаванага і незаконнага пісьмовага папярэджаньня.

Сойм разгледзіў пытаньні падрыхтоўкі да маючага адбыцца **30 верасьня чарговага XVIII справаздачна-выбарчага Зьезду Партыі БНФ** і зацьвердзіў рашэньне "Аб скліканьні чарговага XVIII Зьезду Партыі БНФ". Згодна з пастановай, тэрытарыяльныя сходы па вылучэньні дэлегатаў на вышэйшы орган партыі павінныя адбыцца ў пэрыяд **ад 1 ліпеня па 24 верасьня 2017 году.** Арганізацыйным структурам партыі і Управе дадзеныя даручэньні па арганізацыі падрыхтоўчай працы да Зьезду з улікам неабходнасьці забесьпячэньня роўных умоваў для ўсіх патэнцыйных

# ВЫНІКІ ТРАВЕНЬСКАГА СОЙМУ ПАРТЫІ БНФ

кандыдатаў, што маюць намер вылучацца на пасаду старшыні Партыі БНФ.

Таксама на Сойме было разгледжана пытанне аб падрыхтоўцы да ўдзелу ў мясцовых выбарах, якія мусяць адбыцца напачатку наступнага году. Сябры кіруючага органа Партыі БНФ пагадзіліся з тым, што ўдзельнічаць у гэтых выбарах неабходна. Партыя прыняла палітычнае рашэньне аб паўнафарматным удзеле ў мясцовых выбарах на сваім лютаўскім Сойме. Пры гэтым мяркуецца як партыйнае вылучэньне кандыдатаў у дэпутаты, так і праз збор подпісаў. Кіраўнікі рэгіянальных структур партыі ўжо бліжэйшым часам пачнуць рыхтаваць спісы з жадаючых паўдзельнічаць у гэтай выбарчай кампаніі ў якасці кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў. Плануецца, што для іх будзе арганізаванае адпаведнае навучанне.

Сойм Партыі БНФ абмеркаваў будучую перадвыбарчую плятформу партыі на мясцовыя выбары, якая мусіць складацца з агульнапалітычнага партыйнага мэсэджу, што будзе распрацаваны цэнтральнымі структурамі партыі, а таксама з праграмаў канкрэтных кандыдатаў, што будуць арыентаваныя на вырашэньне праблемаў канкрэтных мясцовасьцяў. Старшыня Партыі БНФ заклікаў прадстаўнікоў рэгіянальных структураў прысьпешыць перамовы па стварэньні рэгіянальных кааліцыяў дзеля размеркаваньня выбарчых акругаў і кансалідацыі працы ў межах канкрэтных рэгіёнаў высілкамі розных палітычных партыяў. Партыя БНФ вітае фармаваньне дэмакратычных кааліцыяў напярэдадні мясцовых выбараў у канкрэтных гарадах з арыентацыяй на правядзеньне супольных кампаніяў, разьмеркаваньне акругаў, арганізацыю навучаньня і супольнага назіраньня.

Сябрам Сойму была даведзеная інфармацыя пра навучальныя магчымасьці для кандыдатаў і сябраў іх камандаў, якія могуць адбыцца напярэдадні выбараў. Разам з тым было адзначана пра неабходнасьць ужо цяпер прыступіць да фармаваньня сьпісаў будучых назіральнікаў, якія прымуць удзел у маніторынгу выбараў.

Сябра Сойму Партыі БНФ **Хрыстафор Жаляпаў** выказаў занепакоенасьць тым, што разам з мясцовымі выбарамі можа быць прызначаны рэфэрэндум, які можа несьці пагрозу незалежнасьці Беларусі. Сябра Сойму **Вадзім Саранчукоў** выказаў меркаваньне, што найлепшымі магчымасьцямі агітацыі супраць імавернага рэферэндуму будуць валодаць зарэгістраваныя кандыдаты ў дэпутаты.

Сябры Сойма Партыі БНФ адзінагалосна (пры адным устрымаўшымся) зацвердзілі рашэнне аб уступленні Партыі БНФ у Альянс кансерватараў і рэфармістаў. У склад Альянсу уваходзяць, сярод іншых, Кансерватыўная партыя Вялікабрытаніі, партыя “Права і справядлівасць” з Польшчы, Рэспубліканская партыя ЗША, Грамадзянская дэмакратычная партыя з Чэхіі, Нацыянальны альянс з Латвіі ды іншыя ўрадавыя партыі з Еўропы і суседніх краінаў. Зараз Альянс кансерватараў і рэфармістаў з’яўляецца найбольш дынамічнай палітычнай сілай у Еўропе, якая павялічваецца вельмі хутка: заснаваны ў 2010 годзе, цяпер гэта трэці паводле велічыні еўрапейскі палітычны рух.

У “Розным” сябры Сойму распавялі пра запляніраваныя імі на бліжэйшы пэрыяд культурніцкія і гістарычныя імпрэзы. **Сяргей Трафімчык** паведаміў, што традыцыйная акцыя памяці беларускіх паўстанцаў-каліноўцаў на Лідчыне заплянаваная на 1 жніўня. Кастусь Смолікаў нагадаў пра неабходнасьць адзначэньня дня абвяшчэньня дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь 27 ліпеня і паведаміў, што Віцебская абласная арганізацыя Партыі БНФ плянуе падаць заяўкі на правядзеньне масавых акцыяў з гэтай нагоды.

# УЛАДЫ НЕ ЖАДАЮЦЬ КРЫЖОЎ У ХАЙСАХ

**Сустрэча прадстаўнікоў улады з грамадзянамі, якія выказалася за ўсталяваньне памятных крыжоў на месцы масавых пахаваньняў ля вёскі Хайсы і падпісаліся за гэта пад зваротам да старшыні аблвыканкаму, адбылася ў зале Мазалаўскага сельскага выканкаму 31 траўня.**

Уладу прадстаўлялі намесьніца старшыні Віцебскага райвыканкаму па сацыяльных пытаньнях **Ксенія Карабач**, старшыня Мазалаўскага сельскага савету **Леанід Дубіна** і сакратарка камісіі па ўшанаваньні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяраў войнаў **Ірына Тарасава**. З боку грамадзкасьці прысутнічалі 22 чалавекі: сябры ініцыятывы «Хайсы», грамадзкія актывісты зь Віцебску і вяскоўцы з Хайсоў ды Дрыкольля.

Сустрэчу пачала Ксенія Карабач, якая адзначыла, што зварот, які заяўнікі накіравалі ў аблвыканкам, быў перададзены Віцебскаму райвыканкаму, бо просьба, якую ён зьмяшчае, знаходзіцца ў кампэтэнцыі раённай улады. Далей яна заявіла, што праца, распачатая 52-ім пошукавым батальёнам на месцы сёлетніх знаходак чалавечых парэшткаў, пакуль ня скончаная, таму пытаньне пра ўсталяваньне крыжа зьяўляецца несвоечасовым. Разам з тым яна адзначыла, што гэтае пытаньне можна лічыць слушным. Аднак пакуль няма заключэньня экспэртызы, якая праходзіць у рамках сьледства, і афіцыйныя высновы па выніках раскопак ня зробленыя, казаць пра нейкае ўшанаваньне зарана.

З высновамі Ксеніі Карабач не пагадзілася віцебская актывістка **Тацяна Севярынец**, што прысутнічала на сустрэчы. Яна ня ўбачыла ў ім лёгікі і заявіла, што ўсталяваньне крыжа ніяк ня будзе замінаць усёй той дзейнасьці, якая вядзецца супрацоўнікамі розных ведамстваў ў межах распачатага дасьледаваньня.

– Гэта месца пакутаў, месца памяці, дзе парэшткі праляжалі дзесяцігодзьдзі. Чаму несвоечасовае? – задала яна пытаньне прадстаўнікам улады.

– Колькі там ужо капаюць? І нікому справы не было, калі косьці валяліся па лесе! Ні міліцыі, нікому! – абурылася жыхарка Дрыкольля **Тамара Дзеравянка** на папярэджаньне Ксеніі Карабач пра недапушчальнасьць правядзеньня самастойных раскопак.

Каб зрабіць размову канструктыўнай, адзін з прысутных актывістаў прапанаваў зьезьдзіць у расстрэльны лес разам і знайсьці месца для ўсталяваньня крыжа, якое б задаволіла і прадстаўнікоў улады, і грамадзкасьць – тады крыж ня будзе замінаць супрацоўнікам 52-га батальёну. Аднак прапанова была адрынутая, і прыйсьці да кансэнсусу не атрымалася.

Ня здолелі адказаць і адносна пасіўнасьці дзяржаўных органаў ў справе пошуку датычных да несанкцыянаваных раскопак чорных капальнікаў.

# ЭТОТ ОПАСНЫЙ «МИР»

Сегодня хорошо видно как Россия постепенно теряет своё влияние на территориях, которые она до сих пор считает исконно своими, а некоторые ей уже вообще неподвласны, например Украина, Грузия Молдова.

Но агрессивная имперская ментальность России не позволяет ей согласиться с этим. К таким территориям она относит и Беларусь. Поэтому двуглавый российский орёл пытается ещё глубже впустить свои когти в Беларусь. Для этого со стороны России используются любые возможности: от усиления экономической зависимости Беларуси от России до информационной экспансии.

Но что настораживает? То что в этом направлении Россия пошла ещё дальше. Идеологи Кремля разработали концепцию так званого «Русского мира», которая по сути является одним из компонентов гибридной войны, которую проводит Россия против независимых стран. Вот и стали как грибы расти на Беларуси разные военно-спортивные, казачьи, духовно-спортивные лагеря для молодёжи. Но к сожалению там учат нашу молодёжь защищать с оружием в руках не свою родную Беларусь, а интересы имперской России, используя для этого агрессивную идеологию «Русского мира». К сожалению, но и Православная церковь на Беларуси имеет к этому отношение: фактов подтверждающих это – предостаточно. Оно и понятно, так как она по сущности является русской и управляется из Москвы. Да что там говорить, когда например священники Православной церкви на Беларуси являются членами Российской фашистской националистической организации РНЕ. Имею ввиду священника Константина Бурыкина, который возглавлял так званый Духовно-спортивный клуб «Белая Русь».

В конце хочу сказать следующее: в 1991 году мы обрели независимость, стали суверенной страной и это является самой большой ценностью для белорусского народа. И мы не позволим никому эту ценность у нас отнять.

Валерий Павлоцкий

# МОЛАДЗЬ БНФ ПРАЦЯГВАЕ КАМПАНІЮ #ГЕНІЮШ2016

**#Геніюш2016 – гэта кампанія Моладзі БНФ па рэабілітацыі і ўшанаваньні памяці беларускай паэткі, грамадскай дзяячкі і выбітной беларускі Ларысы Геніюш.**

Зусім нядаўна Моладзь БНФ атрымала адказ ад генпракуратуры Рэспублікі Беларусь на пісьмовае патрабаванне рэабілітаваць Ларысу Геніюш: «Геніюш Л.А. прызнана не падлягаючай рэабілітацыі», але гэты адказ не спыніць актывістаў.

Як мы і заяўлялі раней, кампанія #Геніюш2016 трансфармуецца ў больш глабальную і будзе ўключаць патрабаванне пра адкрыццё ўсіх архіваў рэпрасаваных за савецкія часы і перагляд справаў з мэтай рэабілітацыі ўсіх нявінна растраляных ці асуджаных савецкай уладай, але разам з тым сама кампанія #Геніюш2016 працягне сваё жыццё.

Мы доўга думалі, ці варта пасля ўсіх паразаў працягваць гэтую кампанію і ці ўвогуле патрэбна рэабілітацыя Ларысы Геніюш, і прыйшлі да высновы, што працягваць кампанію варта, але трэба змяніць першасную мэту. На дадзеным этапе мэтай кампаніі #Геніюш2016 будзе папулярызацыя творчасці Ларысы Антонаўны і годнае ўшанаванне яе памяці. На жаль, не шмат беларусаў ведаюць, хто такая Ларыса Геніюш у той момант, калі яе ведае палова свету. Таму дадзеная мэта вельмі важная, каб імя Ларысы Геніюш назаўсёды замацавалася ў памяці беларусаў, і ніякія "месцячковыя чыноўнічкі" не змогуць перашкодзіць гэтаму.

Пачаўся збор подпісаў за наданне адной з вуліц горада Мінска і гарадскога пасёлка Зэльвы імя Ларысы Геніюш. Актывісты плануюць збіраць подпісы на працягу месяца, пасля чаго яны будуць перададзеныя ў мясцовыя саветы дэпутатаў. Збор подпісаў вельмі важны і для таго, каб больш распавесці пра Ларысу Антонаўну і яе творчасць беларусам усіх узростаў. Таксама падчас збору подпісаў будуць раздавацца ўлёткі з яе вершамі і кароткай біяграіяфіяй.

Разам з тым мы працягнем займацца папулярызацыяй творчасці Ларысы Геніюш. У 10 гарадах адбудуцца паказы кінафільма пра жыццё і змаганне Ларысы Антонаўны "Няскораная", а таксама ў след за Мінскам адбудуцца раздачы адмысловых улётак і ў іншых гарадах. У той жа момант мы працягнем патрабаць годнага ўшанавання памяці і ад мясцовых уладаў, каб былі праведзены вечары памяці Ларысы Антонаўны ў мясцовых бібліятэках і школах.

Ларыса Антонаўна Геніюш назаўсёды заняла заслужанае месца ў беларускай літаратуры, але ці зможа заняць заслужанае месца ў народнай памяці? Гэта і ёсць наша з вамі задача на бліжэйшы час – абудзіць народную памяць не толькі пра Ларысу Геніюш, але і пра ўсіх выбітных прадстаўнікоў нашай нацыі, бо калі мы не зможам гэтага зрабіць, мы не толькі згубім памяць пра Ларысу Антонаўну і іншых выбітных прадстаўнікоў, мы згубім нацыю!

Суполка кампаніі https://vk.com/l.heniyush

# АХВЯРАВАНЬНІ ПРАЗ СЫСТЭМУ "РАЗЛІК" (ЕРИП)

**Напрыканцы траўня ГА БНФ "Адраджэньне" падлучылася да сыстэмы "Разлік" (АРІП) / "Расчет" (ЕРИП), што спрашчае дзеяньні ахвярадаўцаў пры пералічэньні грошаў на падтрымку статутнай дзейнасьці грамадзкага аб'яднаньня.**

Падтрымаць ГА БНФ "Адраджэньне" Вы можаце ў любым зручным для Вас месцы, у зручны час, у зручным пункце банкаўскага абслугоўвання – інтэрнэт-банку, з дапамогай мабільнага банкінгу, інфакіёску і г.д.

Здзейсніць аплату можна з выкарыстаннем наяўных грашовых сродкаў, электронных грошай і банкаўскіх плацежных картак у пунктах банкаўскага абслугоўвання банкаў, якія аказваюць паслугі па прыёме плацяжоў, а таксама пры дапамозе інструментаў дыстанцыйнага банкаўскага абслугоўвання.

ДЛЯ ПРАВЯДЗЕННЯ ПЛАЦЯЖУ НЕАБХОДНА:

1. Выбраць **•Пункт "Сістэма" Разлік "(АРІП) / "Система "Расчет" (ЕРИП)•** Ахвяраванні, дабрачыннасць / Пожертвования, благотворительность
2. БНФ Адраджэнне, ГА.
3. Для аплаты ўвесці Прозвішча Імя Іпб.
4. Праверыць карэктнасць інфармацыі.
5. Здзейсніць плацёж.

Калі Вы ажыццяўляеце плацёж у касе банка, калі ласка, паведаміце касіру аб неабходнасці правядзення плацяжу праз сістэму "Разлік" (АРІП) / "Расчет" (ЕРИП).